 



■ РЫНАК

# У чаканні рыбы з павільёна

**МАЛАДЗЕЧНА. На харчовым рынку рыбны павільён так і не адкрыты. Рыбай гандлююць у ларках, а па санітарных нормах гэта парушэнне, бо рыбай і мясам трэба гандляваць у спецыяльна абсталяваных месцах.**

Яшчэ ўлетку дырэктар харчовага рынку **Аляксей Увараў** паабяцаў, што павільён увойдзе ў строй 15 ліпеня. Затым з–за неналежнага фінансавання рыбны павільён планавалася давесці да ладу ў жніўні. Увесь гэты час рыбу прадавалі ў ларках. Яны стаяць і цяпер.

– Упэўнена ідзем на дно, - гаворыць Аляксей Увараў.

Намеснік дырэктара рынку **Андрэй Трубачкін:**

– На тэрыторыі стаяць два павільёны. Трэці гатовы, але завозіць яго няма сэнсу, пакуль не ўладкуем першыя два. Па санітарных нормах патрэбна, каб у павільёнах была бетонная падлога, плітка, вада, каналізацыя і электрычнасць. На сённяшні дзень зробленая бетонная сцяжка, кафельная плітка праз некалькі дзён з'явіцца. Электрычнасць таксама падвядзем, а ваду не атрымаецца, наперадзе зіма.

Гандляваць пакуль дазволілі і без вады. Плануецца ўвядзенне павільёнаў праз 2 тыдні, але столькі планы пераносіліся, што дакладна сказаць не магу.

**Юрый КАРПІЦКІ.**




Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Няма нічога больш пастаяннага на харчовым рынку, чым часовыя рыбныя ларкі.**

■ ДЛЯ ПРАФІЛАКТЫКІ

# Як НЕ купіць тавар

**Працягваем дзяліцца з вамі (амаль бясплатна, усяго за 90 рублёў) сваімі жыццёвымі хітрасцямі. Сёння – пра некаторыя асаблівасці падману пры спусташэнні нашых з вамі кашалькоў (ці кішэняў, як каму падабаецца; грошай ад таго не дадаецца). Зрэшты, некаторыя прыёмы прадаўцоў вам не зашкодзіць ведаць.**

Апошнім часам ва ўстановы і на прадпрыемствы рэгіёна зачасцілі дылеры і дыстрыб'ютэры розных фірмаў. Прапануюць яны ўсё: ад навейшых сродкаў супраць тараканаў да каштоўных упрыгожанняў. Таму напрошваецца высНова, што яны папросту "ўцюхваюць" нам тавар, у прынцыпе, непатрэбны і нізкаякасны. Зраблю, праўда, агаворку, што не ўсе яны, натуральна, свядома прадаюць няякасны тавар – можна, часам, купіць і карысныя рэчы.

Тым не менш, многія, зачараваныя імклівымі і спрытнымі пераканаННЯМІ і характарыстыкамі тавару, усё ж такі купляюць забаўку з адчуваннем самай удалай пакупкі ў жыцці. Таму мы і апішам сістэму работы такіх прадаўцоў, магчыма, гэта дапаможа вам зберагчы сябе ад "гіпнозу".

Такім чынам, існуе 5 крокаў работы з кліентам.

**Першы хітры крок** – прывітанне "вочы ў вочы". Яно дастаткова ветліва–дастойнае, але і рашучае – каб у патэнцыяльнага пакупніка не заставалася магчымасці праігнараваць прадаўца. Пры гэтым, бадай, немагчыма западозрыць яго ў хлусні.

**Крок другі** – кароткая гісторыя. Уласна, гэта мана пра тое, што мы, маўляў, праводзім нейкую рэкламную кампанію ці выяўляем попыт. Фірма, якой прыкрываюцца такія дыстрыб'ютэры, выбіраецца ў залежнасці ад роду прапануемага тавару. Звярніце ўвагу, што практычна ніхто з іх не запросіць вас купіць тое самае заўтра, але ў самой фірме.

**Крок трэці** – разбежка цэнаў. Гэта хлусня пра тое, што рэальная (магазінная) цана вырабу вельмі высокая. А ў іх – рэкламная. Пры "вызначэнні" магазіннай цаны прадаўцы не саромеюцца і перавялічваюць яе ў 5–6 разоў. Ніхто і ніколі не будзе добраахвотна прадаваць свой тавар "ніжэй ніжняга".

**Чацверты крок** – заключэнне здзелкі. Пасля ўсёй гэтай нагрувашчанай хлусні ў вас бадзёра запытваюцца:

– Вам колькі камплектаў?

Гэтым самым магчымасці памеркаваць не пакідаюць. Вам жа, хутчэй за ўсё, не патрэбны ніводзін гэты камплект.

Імкніцеся абмежаваць кантакты з незнаёмымі дыстрыб'ютэрамі. Ды яшчэ на вуліцы.

**Сямён РАБІНОВІЧ.**

■ ШКОЛА ЖЫЦЦЯ

**Падзяліцца з чытачамі "РГ" сваімі жыццёвымі хітрасцямі абавязаны кожны з вас.**

# Асцярожна: вы выйгралі!

**Сёння размова пойдзе пра вашу бяспеку – тады, як кажуць, калі вы менш за ўсё пра гэта ўспамінаеце.**

Статыстыка сумна сведчыць, што кожны дзесяты прасякнуты прагай да азартных гульняў. Таму (безуважна на вядомы бясплатны сыр у пастцы) не змяншаецца паток тых, хто жадае паспытаць свой лёс ва ўсемагчымых латарэях, розыгрышах і рознага роду "дабрачынных падарунках".

Вось адзін з прыкладаў махлярскай латарэі, што разыгрываюцца, як правіла, на вакзалах, рынках.

У шматлюдных месцах ёсць нямала нашых суайчыннікаў, якія не ведаюць, як бавіць хаця і кароткі, але вольны час. І раптам у натоўпе вам лагодна ўсміхаецца прыемнае дзяўчо, якое запрашае вас узяць удзел у новай і, натуральна, бяспройгрышнай латарэі.

Пра гульню вы яшчэ не разважаеце, аднак крок да гульнявога століка робіце. Вамі кіруе ўсяго толькі цікаўнасць, хаця пасля гэтага кроку вы фактычна ў гульню ўступілі.

Вам давядуць разнастайныя і захапляльныя аргументы. Скажуць нават, што спецыяльна для вас гэтая гульня станецца бясплатнай – выключна як даніна вашым прыгожым вачам.

Такім чынам, вы выцягваеце любую картку са століка. Цуд, вы не верыце сваім вачам, вам, нарэшце, усміхнулася зменлівая пані Фартуна: увесь прызавы фонд ідзе на вашую кішэню. Натуральна, вы шкадуеце, што даводзіцца пакідаць прывабную латарэйшчыцу без рубля, але, мяркуеце вы, гульня ёсць гульня.

І тут узнікае неспадзяванка: аказваецца, ваш партнёр па гульні выцягнуў дакладна такую картку. Патавая сітуацыя: прыз адзін, а пераможцаў двое.

Аднак прыгажуня–латарэйшчыца бліскуча вырашае канфлікт. Яна прапануе наладзіць аўкцыён, а прыз атрымае той, у каго будзе з сабою больш грошай.

Псіхалагічна разлік бездакорны. Рэдкі чалавек адмовіцца ад выйгрышу, калі той амаль што ляжыць у ягонай кішэні. Тым болей, пасля візуальнай ацэнкі саперніка вы разумееце, што наяўнасці ў яго не можа быць зашмат. Таму і пачынаеце выкладваць свае грошы на стол.

Але неўзабаве высвятляецца, што сапернік ваш далёка не такі просты, якім падаваўся ад пачатку, і глыбіня ягоных кішэняў сапраўды не мае дна. Калі вы ўсю сваю наяўнасць паклалі на стол, гульня пераходзіць да сваёй заключнай і вырашальнай стадыі. Далей развіццё падзей можа ісці па розных сцэнарыях (не выключана, што вы з некаторымі знаёмыя), аднак развязка заўсёды будзе адна і тая.

Самае распаўсюджанае, гэта калі нечакана ўзнікае "шухер". Удзельнікі гульні з крыкамі "Міліцыя!" разбягаюцца ў розныя бакі. Прыхапіць вашыя зберажэнні яны, зразумела, не забываюцца.

Адзінае, што, магчыма, вас суцешыць – вы не змарнавалі час. Кажуць, хто папярэджаны, той абаронены.

На гэтым усё. Ніколі не хвалюйцеся і не прыходзьце дахаты раней тэрміну.

**Лявон ІНЕТНЫ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 26 кастрычніка | 2 лістапада |
|---|---|---|
| Долар | 1054,00 руб. | 1054,00 руб. |
| Нямецкая марка | 451,14 руб. | 451,14 руб. |
| Літ | 263,48 руб. | 263,48 руб. |
| Расійскі рубель | 37,82 руб. | 37,82 руб. |
| Злоты | 225,53 руб. | 225,53 руб. |
| ЕЎРА | 882,36 руб. | 882,36 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1070 – 1085 руб. | 1070 – 1085 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 25.10 | 01.11 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1480 | 1580 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 4800 | 5100 |
| Сасіскі, 1 кг | 1620 | 1680 |
| Селядзец, 1 кг | 950 | 960 |
| Рыс, 1 кг | 360 | 370 |
| Грэчка, 1 кг | 500 | 500 |
| Цукар, 1 кг | 525 | 530 |
| Алей, 1 л | 580 | 580 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 590 | 590 |
| Маянэз, 250 г | 170 | 230 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1000 | 1000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 350 | 370 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 320 | 340 |
| Лімоны, 1 кг | 980 | 980 |
| Апельсіны, 1 кг | 690 | 690 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 150 | 160 |
| Капуста, 1 кг | 50 | 50 |
| Морква, 1 кг | 120 | 120 |
| Кавун, 1 кг | 150 | 180 |
| Вінаград, 1 кг | 700 | 850 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 700 | 800 |
| Масла, 1 кг | 1700 | 1800 |
| Тварог, 1 кг | 600 | 600 |
| Малако, 1,5 л | 270 | 280 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 800 | 1000 |
| Бульба, вялікае вядро | 450 | 450 |
| Морква, 1 кг | 130 | 120 |
| Памідоры, 1 кг | 500 | 500 |
| Яблыкі, 1 кг | 250 | 250 |
| Часнок, 1 кг | - | 550 |

■ СПАЖЫВЕЦ

# Код Беларусі – 481



Фота Юрыя Карпіцкага.

**МАЛАДЗЕЧНА. Як правільна чытаць штрых–код, і які на самой справе код маюць беларускія тавары? Адказвае старшыня таварыства абароны спажыўцоў Уладзімір КЛЕШЧ:**

– Распаўсюджанымі лічацца коды з 12 лічбаў (амерыканскі таварны код) ці з 13 (еўрапейская сістэма кадзіравання). У нас часцей, натуральна, сустракаецца еўрапейскі штрых–код.

Першыя дзве ці тры лічбы – краіна паходжання.

Наступныя чатыры ці пяць – прадпрыемства–вытворца, яшчэ 5 – інфармацыя пра тавар і самая апошняя – кантрольная.

Бываюць выпадкі, калі на тавары можна ўбачыць надпіс "Зроблена ў Галандыі", а код гэтай краіне не адпавядае.

Прычыны: 1. Фірма зарэгістраваная і, адпаведна, атрымала код не ў сваёй краіне. 2. Тавар зроблены на даччыным прадпрыемстве. 3. Тавар зрабілі ў адной краіне, але па ліцэнзіі фірмы іншай краіны. 4. Заснавальнікамі прадпрыемства з'яўляюцца некалькі фірмаў з розных краін.

Штрых–коды некаторых краін:

00–09 ЗША і Канада
20–29 рэзерв еўрапейскай сістэмы кадзіравання
30–37 Францыя
380 Балгарыя
383 Славенія
385 Харватыя
387 Боснія і Герцагавіна
400–440 Германія
460–469 Расія і СНД
471 Тайвань
474 Эстонія
475 Латвія
477 Літва
**481 Беларусь**
482 Украіна
484 Малдова
485 Арменія
486 Грузія
487 Казахстан
45, 49 Японія
50 Вялікабрытанія
590 Польшча
594 Румынія
599 Венгрыя
64 Фінляндыя
692 Кітай
70 Нарвегія
729 Ізраіль
73 Швецыя
76 Швейцарыя
80–83 Італія
84 Іспанія
850 Куба
858 Славакія
859 Чэхія
860 Югаславія
869 Турцыя
87 Нідэрланды
880 Паўднёвая Карэя
885 Тайланд
889 В'етнам
90–91 Аўстрыя
93 Аўстралія

Штрых–код на перыядычных выданнях можа пачынацца з 977, а кніг – з 978 ці 979.

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

 

